Праграма Эўхарыстычнага кангрэсу 2
Нядзеля – дзень для душы 3
Праграма Парафіяды 7
Чаму святары не жэняцца 7

Гродна
№10 (445),
15 мая 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# “ПРЫМІ ЗНАК ДАРУ ДУХА СВЯТОГА”



Канфірмацыя з’яўляецца надзвычай важным сакрамантам, паколькі належыць да сакрамантаў хрысціянскага пасвячэння

**Кожны год напрыканцы мая ў парафіях Гродзенскай дыяцэзіі сотні маладых хлопцаў і дзяўчат прыступаюць да сакраманту канфірмацыі. Праз яго “ахрышчаныя атрымліваюць асаблівую моц Духа Святога і такім чынам яшчэ больш абавязаны як сапраўдныя сведкі Хрыста пашыраць веру словам і ўчынкам, а таксама абараняць яе” (ККК 1285).**

● працяг на с. 4

# “ПАКЛІКАНЫЯ БЫЦЬ ПРЫЛАДАМІ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ”



Удзельнікаў сустрэчы чакала насычаная праграма

**Пад такім дэвізам 7–9 мая ў парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах прайшлі XXIII Дыяцэзіяльныя дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. У гэтым годзе ў мерапрыемстве прынялі ўдзел каля 1300 маладых людзей.**

● працяг на с. 5

## Каляндар падзей

**16 мая**
Свята Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла

**19 мая**
Свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара

**22 мая**
Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы

**23 мая**
25-я гадавіна біскупскіх пасвячэнняў кс. б-па Аляксандра Кашкевіча

**24–26 мая**
Эўхарыстычны кангрэс у Гродне

**26 мая**
Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана Езуса (Божае Цела)

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**“Голас Евангелля”**

Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродна на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**“Сімвал веры”**

Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”. Чарговы выпуск – 7 чэрвеня ў 19.45, паўтор – 8 чэрвеня ў 9.00.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**

Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродна, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Май**

Аб Божай апецы для духавенства, манаскіх сёстраў і вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі.

Аб еднасці дыяцэзіяльнага Касцёла з Паўсюдным Касцёлам, а таксама аб правільным разуменні святарамі і вернікамі яго місіі ў сучасным свеце.

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Мінула 25 гадоў з дня ўзнікнення нашай дыяцэзіі. Калі Вы былі больш рэлігійныя?**

- раней
- цяпер
- без змен
- цяжка сказаць
- адмаўляюся адказваць

Выкажыся 

**“Святы Дух робіць нас сапраўднымі хрысціянамі” – Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**СПАСЛАННЕ СВЯТОГА ДУХА**
**Ян 20, 19–23**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя з-за страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!". І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так Я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў і сказаў: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаныя; на кім пакінеце, на тым застануцца".

### ГАРАНТЫЯ ПЕРАМОГІ

Усё, што адбываецца сёння, не можа не паўплываць на тое, што будзе адбывацца заўтра. Нават найменшае дабро, зробленае сёння, памнажае багацце будучыні. Нават найменшы, самы ўтоены грэх уплывае на распаўсюджванне зла заўтра і паслязаўтра.

Калі б мы з гэтага пункту погляду задумаліся над жыццём і навучаннем Пана Езуса, няцяжка было б зразумець, што ўсё, што здзейсніў Езус, не толькі было звязана з будучыняй, але і адкрывала нас на вечнасць. Ён вельмі добра ўсведамляў вагу кожнага слова, кожнага свайго жэста. Ён ведаў, што Яго Евангелле будзе абвяшчацца Апосталамі і дойдзе ажно да канца зямлі. Кожны цуд, кожнае аздараўленне не абмяжоўвалася канкрэтнай асобай, а было сведчаннем для ўсіх будучых слухачоў Добрай Навіны. Пан Езус выхоўваў вучняў і ўкладваў у гэта шмат сілы, каб яны дараслі да заданняў, якія іх чакаюць. Ён няспынна думаў пра будучыню і пра выкананне Божых планаў у вечнасці.

Барацьба паміж дабром і злом усё яшчэ ідзе. Часова – пачаўшы ад першароднага граху, канкрэтна сёння – пачынаючы з кожнага людскога сэрца. Уваскрослы Езус даў Касцёлу на Галгоце і ў Вячэрніку зброю, якая гарантуе перамогу. Безумоўна, канчатковую – у канцы часу. Але таксама і сёння, штодзень, малыя перамогі, калі мы з чыстым сэрцам адыходзім ад канфесіянала.

**НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ**
**Ян 16, 12–15**

Езус сказаў сваім вучням: "Яшчэ шмат чаго маю сказаць Вам, але цяпер вам гэтага не знесці. Калі ж прыйдзе Ён, Дух праўды, навучыць вас усёй праўдзе. Бо не ад сябе будзе прамаўляць, а будзе казаць вам усё, што пачуў, і будучыню абвесціць вам. Ён уславіць Мяне, бо ад Майго возьме і абвесціць вам. Усё, што мае Айцец, гэта маё. Таму Я сказаў вам, што з Майго возьме і абвесціць вам".

### ЗНАК ХВАЛЫ

"Яшчэ шмат чаго маю сказаць Вам" – гэтае сцвярджэнне было актуальнае як у часы Апосталаў, так і сёння. Пан Езус заўсёды гаворыць нам словамі Аб'яўлення. Сёння гэтыя словы ўвесь час чытаюцца нанова. Мы няспынна даследуем іх сэнс і ўражвальную актуальнасць. Пан Езус прамаўляў і надалей прамаўляе да нас гісторыяй Касцёла. Гэта вельмі красамоўны ўрок моцы Божай ласкі, што спадарожнічае хрысціянам на працягу стагоддзяў: Касцёл захаваўся, дзейнічае ў нашым свеце і, выконваючы сваю місію, будзе трываць да канца свету. Урок становіцца тым больш зразумелы, калі памятаць аб стагоддзях пераследу, але ніводны драматычны і крывавых. Тым часам, мноства імперый развалілася. Сярод іх і тыя, што лічыліся непераможнымі. У гістарычных бурах ацалеў Касцёл, які абапіраецца на чымсьці такім мімалётным, як абвяшчэнне слова. Але гэтым "словам" з'яўляецца Евангелле – Слова жыцця, якое не можа падвергнуцца насіллю. Гэта Слова праўды, падтрыманай гарантыяй з высоку. Таму простая бабуля з ружанцам у руцэ ці дзіця са св. Камуніяй у малым сэрцы маюць у распараджэнні мудрасць, большую, чым веды, пацверджаныя навуковымі тытуламі, і сілу, мацнейшую за ўсякую зброю, што пагражае чалавецтву.

Мы не ведаем, сведкамі чаго мы будзем, які сюрпрыз нам падрыхтуе свет. Аднак мы можам жыць з упэўненасцю, што як мінулае, так і будучыня належаць Айцу, Сыну і Духу Святому. А таксама тым, хто ў Найсвяцейшай Тройцы знайшоў фундамент сваёй надзеі.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Быць сведкамі Езуса



**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

*Месяц май па традыцыі багаты на розныя рэлігійныя падзеі. У першую чаргу, гэта ўрачыстасці Першай святой Камуніі і канфірмацыі ў нашых сем'ях і парафіях, маёвыя набажэнствы, Эўхарыстычны кангрэс і працэсія Божага Цела. У сферы веры і жыцця з Богам у гэтыя дні мы мацней злучаемся з Хрыстом. Рэлігійныя падзеі ўкараняюць нас у Божым сыноўстве, паглыбляюць нашу веру і ўдасканальваюць сувязь з Касцёлам. Вера – надзвычай багатая рэчаіснасць, таму яна падлягае такім жа законам, як і кожнае жыццё. Мы кажам аб насенні веры, якое атрымліваем у сакраманце святога хросту, аб яго прарастанні, развіцці... Веру можна страціць, яе можна занядбаць... Вельмі хутка і вельмі лёгка. Дастаткова трохі забыцца пра малітву, пра кантакт з Богам. Дастаткова толькі дазволіць, каб у нашым сэрцы пасялілася слабасць і жаданне стаць Богам. Можа, мы нават будзем прыходзіць у касцёл, можа, заспяваем якую-небудзь песню або, стоячы са знаёмымі перад святыняй, скажам, што і так чуем, і што з таго, калі не ўдзельнічаем у Імшы. Праз гэта мы не даём Богу дакрануцца да сябе, пераменяць, не дазваляем засеяць у нас зерне веры.*

У кожным з нас змены адбываюцца паступова і патрабуюць часу. Падобным чынам таксама з нашай верай і жыццём паводле яе. Вера выспявае паступова. Мы ўвесь час павінны пазнаваць яе, працаваць над сабой, карміць духоўнае жыццё сакрамантамі і малітвай. Святы Ян Павел II падчас адной з пілігрымак сказаў, што "новая евангелізацыя патрабуе сапраўдных сведкаў веры – людзей, укаранёных у крыж Хрыста і гатовых дзеля яго на ахвяры, таму што сапраўднае сведчанне аб жыватворнай моцы крыжа дае той, хто ў яго імя перамагае ў сабе грэх, эгаізм і ўсякае зло і прагне пераймаць Хрыста да канца".

Вызнаннем нашай веры будзе знак крыжа перад святыняй, укрыжаваннем ці фігурай, удзел у святой Імшы, прыняцце сакрамантаў, удзел ва ўроках рэлігіі і звычайная культура быцця. Сёння вельмі патрэбны сведкі прысутнасці Езуса. Свету неабходна нанова адкрыць і пазнаць Езуса, каб было менш падзелаў, варожасці, вайны і беднасці ў свеце. Сёння ад кожнага з нас залежыць, ці здольны мы ўзяцца за аздараўленне асяроддзя, у якім жывём. Праз свае сведчанне мы таксама зможам падтрымліваць тых, хто яшчэ шукае свой шлях да Бога. Прыказка сцвярджае, што словы вучаць, а прыклады цягнуць. Варта сваім жыццём паказаць прысутнасць Бога, а майскі час дае нам для гэтага шмат нагод.

## ЮБІЛЕЙ 25-ГОДДЗЯ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

**ГРОДНА, 24 – 26 МАЯ 2016 ГОДА**

### ПРАГРАМА ЭЎХАРЫСТЫЧНАГА КАНГРЭСУ

**24.05 – АЎТОРАК**

**15.30 - прывітанне ўдзельнікаў і канферэнцыя I**
*(зала Яна Паўла II, Вышэйшая духоўная семінарыя)*
**19.00 - святая Імша**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**20.15 - эўхарыстычная адарацыя**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

**25.05 – СЕРАДА**

**09.30 - эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва**
*(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**10.00 - канферэнцыя II**
*(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**12.00 - святая Імша**
*(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**16.00 - канферэнцыя III**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**17.15 - набажэнства да Найсвяцейшай Панны Марыі** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**20.00 - канцэрт касцёльных хароў**
*(Гарадскі дом культуры, вул. Дзяржынскага, 1),*
**вечар праслаўлення для моладзі** *(пляц пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы)*

**26.05 – ЧАЦВЕР**

**09.30 - эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**10.00 - канферэнцыя IV**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**12.00 - падсумаванне кангрэсу**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**18.00 - святая Імша**
*(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**і эўхарыстычная працэсія па вуліцах горада**

# Першамайскі-Няцеч




*Знешні выгляд святыні*

Паселішча Першамайскі паўстала каля вёскі Няцеч зусім нядаўна – у 1959 годзе як рабочы пасёлак пры торфапрадпрыемстве. Мясцовая парафія заснавана 20 верасня 2001 года, а касцёл пачаў будавацца ў красавіку 2002 года. Праз два гады 4 сакавіка ён быў асвечаны пад тытулам св. Казіміра. Праект святыні быў распрацаваны ў арцыбіскупскім праектна-будаўнічым бюро ў Баранавічах (Пінская дыяцэзія), а рэалізаваны намаганнямі парафіян з дапамогай нямецкага каталіцкага фонду "Рэнавабіс".

Касцёл – гэта аднавежавы цагляны і атынкаваны храм, пабудаваны ў сучаснай трактоўцы неаготыкі. Святыня прамавугольная ў плане, безапсідная, прэсбітэрый фланкаваны дзвюма фігурнымі ў плане сакрыстыямі, злучанымі па-за алтаром праз катэхетычны клас. Аб'ём перакрыты адзіным двухсхільным металачарапічным дахам з вальмам над алтарнай часткай. Галоўны ўваход пазначаны чацверыковай вежай-званіцай пад двухсхільным дахам.

Залавы інтэр'ер перакрыты плоскай столлю, на алтарнай сцяне над табернаклем змешчаны тытульны абраз св. Казіміра ў атачэнні абразоў Найсвяцейшага Сэрца Марыі Панны (злева) і Божай Міласэрнасці (справа).




### Малітва падзякі за 25 гадоў Гродзенскай дыяцэзіі

**Усемагутны і міласэрны Божа ў Тройцы Адзіны! Мы праслаўляем Цябе і дзякуем Табе за ўсе ласкі і даброты, якімі Ты надзяляў Божы люд Гродзенскай дыяцэзіі на працягу 25 гадоў!**

**Просячы прабачэння за нашыя грахі і занядбанне, молім Цябе праз заступніцтва Марыі, Маці Міласэрнасці і Апякункі нашай, каб Ты і ў далейшым накіроўваў нас у сваім ласкавым Провідзе, адорваючы наш дыяцэзіяльны Касцёл супакоем і адзінствам, а таксама святымі пакліканнямі.**

**Блаславі нашага Пастыра ў еднасці з усімі святарамі дыяцэзіі. Захоўвай у святасці нашыя сем'і, узмацняй веру і любоў да Цябе ў душах дзяцей і моладзі.**

**Дазволь нам трываць з Табой у супольнасці з Паўсюдным Касцёлам, каб мы маглі жыць для Тваёй славы і няспынна Табе служыць! Праз Хрыста, Пана нашага.** *Амэн.*

*За мітуснёй сучаснага свету чалавек часта не заўважае, што адны клопаты змяняюць другія, на месца адных запатрабаванняў прыходзяць іншыя... Жыццё становіцца падобным на гонку, што нагадвае бег па замкнёным коле. Нядзельны жа дзень прапануе на момант спыніцца і паглядзець у нябёсы.*




## ЦІ МОЖНА Ў НЯДЗЕЛЮ ПРАЦАВАЦЬ?

Бог працаваў шэсць дзён, а на сёмы адпачыў. Праз гэта Творца паказаў чалавецтву, што сёмы дзень – дзень спакою. “Памятай дзень святы святкаваць”, – гаворыцца ў трэцяй запаведзі Дэкалога. Касцёл нагадвае пра тое, што ў нядзелю і святы чалавек павінен пазбягаць усялякай працы, якая прыносіць яму матэрыяльную выгаду, і, наогул, служэння сабе самому.

У хрысціян не прынята пакідаць на нядзелю якія б там ні было хатнія справы (уборку, мыццё бялізны і г. д.). У некаторых хрысціянскіх краінах устрымліваюцца нават ад гатавання ежы, рыхтуючы яе напярэдадні. Сапраўдны вернік ніколі не мае працы, якая не можа пачакаць да заўтра. Менавіта таму старэйшыя людзі часта гавораць, што ў нядзелю нават нітку ў вушка іголкі нельга ўсадзіць. А ўсё таму, што хрысціянін верыць, што ўсе забароны і абмежаванні Бог стварыў для яго ж шчасця.

Працаваць у нядзелю не рэкамендуецца, а вось рабіць добрыя справы заахвочваецца. Таму людзі, якія здзяйсняюць грамадска-карысную працу ў нядзелю, не робяць граху. Іх служба блаславёная Творцам. Уласна таму святыя айцы заклікалі хрысціян у нядзельныя дні наведваць хворых, дапамагаць патрабуючым, карміць галодных і г. д. І нават калі добрыя справы вымагаюць прыкладання фізічных сіл, яны спадобныя Богу.

У большасці краін свету нядзеля з’яўляецца афіцыйным выхадным днём. Але не ўсе маюць адпачынак у гэты дзень: напрыклад, медыцынскія работнікі, ратавальнікі, вадзіцелі, прадаўцы. Вернікі, якія вымушаны працаваць у нядзелю, зусім не пазбаўлены магчымасці выконваць трэцюю запаведзь. Вольны час пры магчымасці яны могуць прысвяціць малітве і чытанню Святога Пісання, а наведванне святыні – перанесці на суботу. Увечары ў шматлікіх парафіях здзяйсняецца Імша нядзельнага дня.

Многія хрысціяне працуюць у нядзелю, бо незадаволены сваім сталым заробкам. Гэта можа быць вымушаным рашэннем чалавека (не хапае сродкаў на існаванне) або нежаданнем апускаць высокую планку ўзроўню жыцця (узнікаюць усё новыя і новыя запатрабаванні). У першым выпадку чалавек міжвольна змагаецца за выжыванне і таму не падлягае асуджэнню, а ў другім – клапоціцца пра сябе ў дзень, які павінен быць прысвечаны Богу. Гэта можа выклікаць Божую кару.

## ЯКІМ ПАВІНЕН БЫЦЬ НЯДЗЕЛЬНЫ АДПАЧЫНАК?

Арганізм чалавека перыядычна перажывае напружанне і стамляецца. Таму сілы неабходна аднаўляць: дыхаць свежым паветрам, добра харчавацца, больш рухацца або наадварот – знаходзіцца ў стане спакою.

У нядзелю трэба адпачываць з карысцю для душы. Можна ляжаць у ложку, але з кнігай, якая дапамагае духоўна ўзрастаць. Можна выйсці з сям’ёй у кінатэатр на які-небудзь добры фільм, а потым разам абмеркаваць убачанае. Душа павінна “насычацца”. Яна паклікана ўдасканальвацца, бо створана для вечнасці.

Пры гэтым трэба размяжоўваць адну вельмі важную рэч. Калі па часе адпачынак працягваецца даўжэй, чым тое неабходна для аднаўлення сіл, то ён плаўна пераходзіць у стадыю забавы. На гэтым этапе чалавек робіць свядомы выбар і шукае спосаб, куды прыкласці адноўленыя сілы: заняцца спортам, схадзіць на пікнік. У нявінных задавальненнях няма граху. Але калі чалавек увесь час прысвячае выключна сабе, гэта супярэчыць трэцяй Божай запаведзі.

Цэлы дзень нядзелі за забавамі праводзіць няправільна. Гэта дзень духоўнага спакою і служэння Богу. Яго неабходна прысвяціць усяму таму, што ўзбагачае духоўна: чытанню рэлігіёзнай літаратуры, вядзенню адпаведных размоў, здзяйсненню добрых учынкаў. У нядзелю вернікам належыць “устрымлівацца ад тых спраў і працы, якія перашкаджаюць адпаведнаму пакланенню Богу, радасці, характэрнай для свята, ці належнаму адпачынку душы і цела” (ККП, 1246–1247). Аптымальны варыянт – сумяшчаць цялесны і душэўны адпачынак. Напрыклад, вудзіць рыбу і разважаць над апошнімі падзеямі са свайго жыцця (робячы пры гэтым глыбокі рахунак сумлення). Або паехаць на экскурсію, каб памаліцца ля помніка духоўнай архітэктуры.

## ЯК НАЛЕЖЫЦЬ ПЕРАЖЫВАЦЬ СВЯТЫ ДЗЕНЬ?

Кожная нядзеля – малая Пасха, дзень Уваскрасення Хрыста. Касцёл разглядае нядзелю як вялікае свята. Менавіта таму ў гэты дзень кожны католік, згодна з Кодэксам кананічнага права, пакліканы ўдзельнічаць у святой Імшы і па магчымасці прыступаць да Камуніі. І гэта не толькі абавязак, але і вялікі дар для чалавека, які паверыў у Хрыста: ужо тут, на зямлі, ён мае магчымасць “дакранацца” да самаго Бога. Таму той, хто не прымае ўдзел у нядзельным набажэнстве, пазбаўляе сябе духоўнай радасці.

Вернікі, якія не могуць прысутнічаць на нядзельнай святой Імшы ў святыні, павінны імкнуцца ўдзельнічаць у ёй пасродкам радыё, тэлебачання або праз інтэрнэт. У крайнім выпадку, калі чуюць званы, якія склікаюць вернікаў у касцёл, павінны зрабіць на сабе знак крыжа і ў думках стаць перад алтаром Пана, выказаўшы праз гэта набожнае жаданне прысутнічаць пры бяскроўнай ахвяры.

Але ўдзелам у святой Імшы святкаванне нядзельнага дня абмяжоўвацца не павінна. Акрамя гэтага, можна здзяйсняць учынкі міласэрнасці ў адносінах да бліжніх, дзяліцца любоўю і радасцю з акружаючымі.

Пажадана вызваліцца ад зямных спраў і прысвяціць час, якога можа не ставаць у буднія дні, малітве, разважанню над Божым словам. Душа павінна напоўніцца святымі думкамі, пачуццямі і жаданнямі.

Кожны нядзельны дзень уяўляе вялікі подзвіг Збаўцы і паўнату Божай любові. Таму ў ідэале ўвесь тыдзень павінен быць падрыхтоўкай да гэтага вялікага дня.

***Ангеліна Пакачайла***

# УЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ БЛІЖНЯГА. СУЦЯШАЦЬ ЗАСМУЧАНЫХ




Тугу, сардэчны боль, заняпад сіл і цікавасці да жыцця звычайна адчувае засмучаны чалавек. Такі стан можа быць звязаны са стратай кагосьці або чаго-небудзь. І ўвесь свет тады падаецца нямілым. Рукі апускаюцца, увага рассейваецца.

Але знешне не заўсёды можна заўважыць, якія пакуты раздзіраюць чалавека знутры. Часта людзі спрабуюць схаваць свой смутак або ўвогуле адмаўляюцца ад яго. Ім здаецца, што паказваць боль няправільна, непатрэбна. І тады чалавек застаецца сам-насам з няшчасцем. З-за гэтага іншыя людзі, якія знаходзяцца вакол, адчуваюць няёмкасць і разгубленасць, калі сустракаюцца з чужым горам. Якія словы сказаць? Чым суцешыць чалавека?

Перш за ўсё, неабходна адкрыць сваё сэрца і ўпусціць у яго цярпенне бліжняга. Гэта няпроста, бо часам чалавеку даводзіцца сутыкацца з уласным эгаізмам, недахопам часу або жаданняў.

Суцешыць засмучанага – значыць, выказаць сваю заклапочанасць словам, учынкам або малітвай. Неабходна ацаніць сітуацыю і па магчымасці справіцца з бядой чалавека. Нам заўсёды даступны словы: “я з табой”, “ты мне неабыякавы”, “усё будзе добра”, “можаш на мяне разлічваць”. Гэта не вырашае праблемы, але дазваляе па-іншаму паглядзець на сітуацыю. Чалавека можна раніць і сваёй нячуласцю, таму важна, каб суцяшэнне гучала шчыра. Сіла суцяшэння заключаецца не ў саміх словах, а ў блізкасці, неабыякавасці.

Часам дастаткова проста быць побач. На сваім Крыжовым шляху Хрыстос прыняў суцеху, якую дала Яму Маці. Яе прысутнасць была для Езуса крыніцай суцяшэння і ўзмацнення. Так, як Ян і Вераніка, як некалькі самых верных вучняў, мы павінны быць побач з тымі, хто пакутуе: так блізка, як толькі можна, так доўга, колькі трэба, так верна, наколькі гэта магчыма.

Напоўніць душу бліжняга сілай і адвагай дапаможа заступніцкая малітва. Незаўважным для бліжняга спосабам можна зрабіць нашмат больш, чым прыкладаючы нейкія фізічныя намаганні.

Акрамя духоўнай падтрымкі, чалавек можа мець патрэбу ў матэрыяльных рэчах. Часта засмучаны чалавек перастае адчуваць рэальнасць і не можа сказаць, што яму неабходна. Па гэтай прычыне трэба быць вельмі ўважлівым і чулым да бліжняга, быць гатовым адказаць на яго просьбы.



Засмучаны чалавек востра патрабуе надзеі. Суцяшэнне павінна ўмацаваць жаданне несці крыж да самага канца, дадаць духа, каб суцяшаемы быў адкрыты на праблемы. Гэта значыць, неабходна дапамагчы чалавеку зразумець яго смутак і перараканаць у сэнсоўнасці і канечным эфекце перажытага балючага досведу. Бо калі ён прымаецца ў любові, то становіцца падобным на горкае семя, у якім заключана зерне новага жыцця, скарб Божай хвалы, якую чалавек атрымае ў вечнасці. Дзякуючы гэтай надзеі, пакутуючыя людзі, злучаныя ў веры з Хрыстом, адчуваюць ужо ў гэтым жыцці радасць, якая па-людску здаецца невытлумачальнай.

Хтосьці можа сказаць, што сам перагружаны непрыемнасцямі і не мае сіл на тое, каб суцяшаць іншых. Тут варта ўспомніць пра тое, што Бог заўсёды дае моц на здзяйсненне добрых учынкаў. “Блаславёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста, Айцец міласэрнасці і Бог усякага суцяшэння, які суцяшае нас ва ўсякім смутку нашым, каб мы маглі суцяшаць усіх засмучаных тым суцяшэннем, якім Бог суцяшае нас саміх (2 Кар 1, 3–4).

Вельмі часта сам Езус суцяшаў засмучаных. Калі з мястэчка Наім выносілі цела маладога чалавека, сына беднай удавы, якая разам з ім страціла апошняе суцяшэнне, Хрыстос наблізіўся і звярнуўся да маці са словам любові: “Не плач”, – а да маладзёна са словам усемагутнасці: “Устань”. Адразу ж боль і смерць зніклі. Так жа Езус спяшаўся ў дом Марыі і Марты, каб заплакаць разам з імі над стратай брата Лазара.

Не трэба баяцца быць разам з засмучанымі. Ва ўзаемным суцяшэнні, якое практыкуюць хрысціяне, выяўляецца і рэалізуецца Божае Валадарства.

***Ангеліна Пакачайла***



**Кс. Павел Урбан**

*Служыць суцяшэннем засмучаных можа кожны, хто неабыякавы да няшчасця бліжняга. Для гэтага трэба заўсёды памятаць пра гаючы эфект малітвы. Калі прычыны смутку незваротныя, такія, як смерць ці невылечная хвароба, сама толькі прысутнасць іншага чалавека прыносіць суцяшэнне. Трэба, па меншай меры, паспрабаваць вярнуць долю радасці жыцця і надзеі засмучанаму, скіроўваючы яго ўвагу на мінучасць зямных каштоўнасцей і трываласць шчасця і радасці ў вечнасці. Калі ж прычыны смутку зваротныя, такія, як цяжкая хвароба, страта сродкаў для годнага жыцця, трэба вярнуць чалавеку надзею на тое, што з часам яны знікнуць. Неабходна асабіста паспрыяць як мага хутчэйшаму знікненню прычын смутку, рэкамендуючы чалавеку практычныя і даступныя спосабы выхаду з цяжкай жыццёвай сітуацыі. Напрыклад, параіць яму добрых знаёмых урачоў або аказаць, па меры магчымасцей, матэрыяльную падтрымку.*

### 5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:

1. *Нясенне суцяшэння падтрымлівае смутных і маркотных у час глыбокіх крызісаў.*
2. *Сардэчна кагосьці суцешыць – значыць прапанаваць яму зычлівасць, сяброўства, сардэчнасць.*
3. *Суцяшэнне неабходна для здабыцця душэўнага спакою.*
4. *Яно служыць больш глыбокаму разуменню Божай таямніцы.*
5. *Праз учынак міласэрнасці чалавек дазваляе Богу праз сябе ўздзейнічаць на іншую асобу.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Мы не адныя: Езус знаходзіцца побач з намі, сярод нас, у нас! Яго новая прысутнасць у гісторыі рэалізуецца праз дар Святога Духа, дзякуючы якому можна наладзіць жывую сувязь з Ім – Укрыжаваным і Уваскрослым. Дух, які разліваецца ў нас праз сакраманты хросту і канфірмацыі, дзейнічае ў нашым жыцці. Ён кіруе намі ў спосабе мыслення і дзеяння, каб мы адрознівалі добрае ад дрэннага. Дапамагае практыкаваць любоў Езуса, Яго аддаванне сябе іншым, асабліва тым, хто найбольш гэтага патрабуе.*

*Знакам прысутнасці Святога Духа з’яўляецца супакой, які Езус дае сваім вучням: “Супакой Мой даю вам” (27). Ён вынікае з перамогі над грахом, эгаізмам, які не дазваляе нам любіць адзін аднаго, як браты. Гэта дар Бога і знак Яго прысутнасці. Кожны вучань, заклікаңы сёння накіроўвацца за Езусам, несучы крыж, атрымлівае ў сэрцы супакой уваскрослага Хрыста разам з гарантыяй Яго перамогі, чакаючы Яго канчатковага прыходу.*

*“Regina Caeli” са Святым Айцом, 01.05.2016*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Кожны дзень мы змагаемся з няпэўнасцю, канфліктамі і спакусамі. І толькі сталая прысутнасць Бога дапамагае нам ісці ў будучыню з высока паднятай галавой, з надзеяй і хрысціянскай адвагай. Святы Дух дапамагае нам вярнуцца да крыніц нашай веры – Святога Пісання і Традыцыі – з мэтай падтрымкі і падбадзёрвання. Ён дапамагае пазнаць Божую праўду і адорвае сваім супакоем. Але каб атрымаць гэтыя дары, неабходна прабываць з Богам у малітве і слухацца Яго, каб зразумець Божыя планы адносна нас.*

*Праз Святога Духа Езус знаходзіцца з намі, не пакідае нас адных. Ён раздзяляе з кожным сваю радасць і ў сваёй міласэрнасці ператварае нашу грахоўную залежнасць у свабоду жыцця ў Божай ласцы. Але каб гэта адбылося, неабходна дазволіць Яму ўвайсці ў наша жыццё. Ён паважае нашу свабоду і таму нікога ні да чаго не змушае. Усё залежыць толькі ад нас саміх.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай у VI Велікодную нядзелю*




◆ *Папа Францішак атрымаў міжнародны Ордэн усмешкі. Гэта адзіная ўзнагарода, якую прызначаюць па просьбе дзяцей. Прашэнне для Папы ў Капітул Ордэна ўсмешкі падалі польскія хлопчыкі і дзяўчынкі. Яны падкрэслілі, што Святы Айцец адкрыты на дзяцей, на яго дапамогу заўсёды можна разлічваць. Папа Францішак атрымаў пасведчанне пад нумарам 1000. Па традыцыі ўзнагароджаны прыняў чырвоную ружу і з усмешкай, не моршчачыся, выпіў шклянку свежага лімоннага соку.*

◆ *У Кракаве незвычайна адсвяткавалі 16-ю гадавіну кананізацыі с. Фаўстыны Кавальскай. Асобы, аб'яднаныя вакол ініцыятывы "Лагеўнікія 22" і супольнасці "Фаўстына 2016" у „Facebook" з абеду да вечара ў цэнтры горада раздавалі жыхарам і турыстам "Дзённік" аўтарства святой. Як падкрэсліваюць арганізатары, мэта акцыі палягала на тым, каб кнігі трапілі да людзей, якія не ведаюць св. Фаўстыны і паслання аб Божай міласэрнасці.*

◆ *Кардынал Арані Тэмпеста абвясціў на тэрыторыі сваёй архідыяцэзіі ў Рыа-дэ-Жанейра акцыю "100 дзён міру". Яна прымеркавана да летняй Алімпіяды, якая хутка пройдзе ў гэтым горадзе. Мерапрыемства заключаецца ў разнастайных малітоўных ініцыятывах на працягу 50-ці дзён перад пачаткам Алімпійскіх гульняў і дадатковых 50-ці пасля іх заканчэння. Алімпіяда будзе праходзіць у Рыа-дэ-Жанейра з 5 па 21 жніўня. У ёй прымуць удзел больш за 10,5 тысяч спартсменаў з 206 краін. У сваю чаргу з 7 па 18 верасня бразільская мітраполія будзе прымаць 4200 спартсменаў падчас летніх Параалімпійскіх гульняў. Папа Францішак ужо асвяціў сцягі Алімпіяды.*

◆ *Дабрачынная ініцыятыва паўстала ў парафіі Эль-Паса ў Мексіцы. Каб падтрымаць людзей, якія не маюць працы, быў створаны рэстаран "La Tilma". Ён не нацэлены на прыбытак, з-за чаго прапануе лепшы кошт на прысмакі ва ўсім горадзе. "Людзі прыходзяць і купляюць, таму што цэны вельмі нізкія. А ў выпадку крайняй неабходнасці мы можам і нічога не ўзяць за ежу", – сцвярджае менеджэр рэстарана Джэймс Марцінэс. Зароблены грошай хапае на ўтрыманне рэстарана і зарплату працаўнікам. Акрамя таго, рэстаран дае людзям магчымасць атрымаць новыя навыкі, каб заняцца ўласным бізнесам.*

◆ *15 мая ўся Польшча ў чарговы раз супольна затанчыць для святога Яна Паўла II. Так званы "флэшмоб" па традыцыі адбываецца каля 18 мая – Дня нараджэння Караля Вайтылы. Гэта нагода, каб падкрэсліць памяць аб святым Яне Паўле, і адначасова запрашэнне на сустрэчу моладзі на Ледніцкіх палях, якія ў гэтым годзе адбудуцца 4 чэрвеня. Флэшмоб завітае ў Познань, Кракаў, Торунь і гданьскі Новы Двор.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# "Прымі знак дару Духа Святога"

● *працяг са с. 1*

З даўніх часоў чалавек выкарыстоўваў спадарожны вецер і ветразі, каб хутчэй даплываць на сваёй лодцы да месца прызначэння. Нягледзячы на тое, што лодка можа рухацца з дапамогай вёслаў, толькі недасведчаны марак пры спадарожным ветры не падніме ветразі.

**Умовы прыняцця сакраманту канфірмацыі:**

Кандыдат павінен быць ахрышчаны, у стане асвячаючай ласкі, духоўна і разумова падрыхтаваны да прыняцця моцы і ласкі Святога Духа.

У нашым духоўным падарожжы да порту збаўлення Езус параўноўвае з ветрам натхненне Святога Духа. Ён кажа Нікадзіму: "Вецер вее там, дзе хоча, і голас яго чуеш, але не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды ідзе. Так ёсць з кожным, хто нарадзіўся з Духа" (Ян 3, 8).

Нікадзім у сваім жыцці выкарыстаў гэтую навуку. Спачатку ён гаварыў з Хрыстом употай, баючыся габрэяў. Потым выступіў супраць фарысеяў і бараніў Хрыста, калі тыя хацелі Яго арыштаваць. А пасля смерці Езуса ён паказаў сябе як Яго прыхільнік, ахвяруючы алей для намашчэння Хрыстовага цела. Нікадзім хутка дасягнуў духоўнай сталасці, бо скарыстаў Божы вецер – натхненне Святога Духа.

Успрымальнасць розуму і волі чалавека да натхнення Святога Духа – гэта вынік сямі дароў Духа Святога, якія католік атрымлівае праз сакрамант канфірмацыі. Такім чынам, у яго з'яўляюцца своеасаблівыя ветразі, якія дазваляюць упэўнена "плыць" па шляху духоўнага развіцця.

Канфірмацыя – гэта сакрамант, які павінен сведчыць пра свядомую пазіцыю веруючага чалавека. Гэта крок да рэлігійнай сталасці, які дазваляе падлетку стаць дарослым вернікам і абавязвае яго сур'ёзна клапаціцца пра сваё рэлігійнае жыццё, паглыбляць і развіваць сваю веру.

Дзень прыняцця Святога Духа ў некаторых можа атаясамлівацца з урачыстай цырымоніяй – выключна з вонкавай абалонкай гэтага духоўнага свята. У той час як для сапраўднага верніка гэта дзень, калі ён можа свядома паўтарыць абяцанні, якія некалі замест яго вымаўлялі бацькі і хросныя, і адчуць сябе дарослым членам Касцёла. Канфірмацыя – гэта таксама той момант, калі малады хрысціянін павінен адчуць, што ў яго з'явіліся новыя абавязкі. Напрыклад, трэба несці поўную адказнасць за ўсе свае ўчынкі, мець адвагу, каб смела і аргументавана даказваць свой пункт погляду падчас дыскусій на складаныя тэмы рэлігіі і Бога са сваімі равеснікамі, якія не вераць ці саромеюцца сваёй веры. Да таго ж, трэба самому дбаць аб развіцці веры, бо раней гэты абавязак ляжаў на бацьках, якія кантралявалі наведванне св. Імшы і катэхезы, дбалі пра тое, каб дзень пачынаўся з малітвы, магчыма, патрабавалі ўдзелу ў жыцці парафіяльнай супольнасці.

Здаецца, што ўласнымі сіламі гэтага дасягнуць немагчыма. Менавіта таму праз сакрамант канфірмацыі вернік атрымлівае моц Святога Духа, якая дапамагае глыбей закараніць у чалавечай душы Хрыста і ўмацаваць сувязь з Касцёлам, а таксама дае сілы, каб сведчыць аб хрысціянскай веры словам і ўчынкамі.

У адной са сваіх гамілій ксёндз арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сказаў, што чалавек можа стаць лепшым толькі дзякуючы Хрысту, які дзейнічае праз Святога Духа. "Успомнім сцэну Пяцідзясятніцы, калі Апосталы перамяніліся і адважна пайшлі абвяшчаць Добрую Навіну. Яны ўнеслі ў гэты свет евангельскую закваску, якая ўжо дзве тысячы гадоў абагачае яго Божым духам. Навізна Евангелля ў тым, што яно нясе новы закон – закон любові", – заўважыў Мітрапаліт. Ён таксама адзначыў, што Дух Святы падобны да дождж, які перамяняе душы і сэрцы, з засохлых робячы іх квітнеючымі. "Аднак неабходна, каб гэты дождж упаў на глебу нашай душы. Трэба дазволіць Святому Духу дзейнічаць у нас, трэба супрацоўнічаць з Ім, каб Ён нанова ўчыніў цуд Пяцідзясятніцы, каб усе народы пазналі Божую праўду і жылі ёю", – сказаў арцыбіскуп.

Сакрамант канфірмацыі – гэта сакрамант Святога Духа, праз які Ён прыходзіць да нас са сваімі дарамі. Аднак каб жыццё чалавека змянілася, недастаткова толькі прыняць сакрамант, трэба дазволіць Святому Духу дзейнічаць у нашых сэрцах.

***Кінга Красіцкая***

**Вынікі канфірмацыі:**

- удасканальвае ласку хросту;
- глыбей укараняе ў Божым сыноўстве;
- мацней яднае з Хрыстом;
- памнажае дары Святога Духа;
- удасканальвае сувязь з Касцёлам;
- умацоўвае для сведчання аб хрысціянскай веры словам і ўчынкам.

**Дары Святога Духа:**

- **дар мудрасці** дазваляе прыняць пункт гледжання самога Бога, які апіраецца на фундаменце любові;
- **дар розуму** дапамагае ўсведамляць найважнейшыя рэчы: любоў, дабро і зло, Божую ласку, смерць, і, нарэшце, сэнс чалавечага жыцця: куды яно накіроўваецца і якая яго мэта;
- **дар рады** прыходзіць як дапамога ў сумненнях, дапамагае знайсці правільны шлях, дае спакой;
- **дар мужнасці** адорвае стойкасцю перад выпрабаваннямі;
- **дар умеласці** дазваляе адрозніваць каштоўнасці: што паходзіць ад Бога, што – ад злога, а што – ад нас саміх;
- **дар набожнасці** дапамагае захапляцца Богам і любіць Яго;
- **дар боязі Божай** вучыць нас з адказнасцю падыходзіць да веры, малітвы, сакрамантаў – святых спраў, якія нельга ўспрымаць абы як.

## *Што такое міласэрнасць? Як рэалізаваць яе асаблівым чынам у юбілейны літургічны год? Сваімі думкамі на гэты конт дзеляцца "пакліканыя быць прыладамі Божай міласэрнасці" – удзельнікі Дыяцэзіяльных дзён моладзі 2016.*

*Міласэрнасць – гэта адзін з пунктаў Божай любові, той сапраўднай любові, якую павінен мець кожны ў адносінах да бліжняга. Калі не маеш у сабе Божага Духа, то і не можаш быць па-сапраўднаму міласэрным.*

*Учынкі міласэрнасці – гэта не проста добрыя ўчынкі ў дачыненні да бліжняга. Усё залежыць ад таго, як іх здзяйсняць: з-за любові, спачування або па прымусе. Найлепшы і самы праўдзівы матыў – любоў!*

*Бываюць моманты, калі пасля доўгага знаходжання ў кантакце з Богам я адчуваю, што напаўняюся Яго любоўю. Тады я разумею, што павінен быць міласэрным у дачыненні да бліжняга, і сапраўды пачынаю адчуваць у сабе моц, якая можа дапамагчы хаця б у найменшай меры спыніць цярпенні людзей.*



***Ілля,***
***парафія св. Францішка Ксаверыя ў Гродне***

*Мы дня не можам пражыць без вады, таксама як і без Божай любові. Але калі чалавек хварэе, ён патрабуе чагосьці мацнейшага, чым вада – гарачай гарбаты, напрыклад. Я лічу, што Божая міласэрнасць і з'яўляецца для нас той гарачай гарбатай, зробленай з найлепшых траў, ды яшчэ і з мёдам. Гэты адвар мы прымаем, калі хварэем на цяжкую хваробу – грэх.*

*Акрамя выздараўлення, наша місія палягае на тым, каб данесці цяпло гэтай гарбаты да тых, хто яе патрабуе. Таму чалавек з'яўляецца свайго роду тэрмасам, які захоўвае Божае цяпло – міласэрнасць.*



***Марта,***
***парафія св. Францішка Ксаверыя ў Гродне***

*Міласэрнасць – гэта адкрытасць не толькі на знаёмых, сяброў, якім дапамагаеш ужо па інэрцыі, але на кожнага чалавека. Лічу, што ў Год міласэрнасці трэба больш увагі прысвячаць тым, хто яе патрабуе. Трэба не саромецца падысці да жабрака, п'яніцы... Кожны з іх, напэўна, мае прычыну, па якой збочыў з добрага шляху і не мае адвагі, каб на яго вярнуцца. Мы ж – хрысціяне – павінны адрозніваць асаблівым разуменнем і пранікнёнасцю да бліжняга.*



***Іра,***
***парафія Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах***

*Міласэрнасць – гэта той факт, што Бог прымае нас, нягледзячы на тое, што мы пастаянна грашым. Глыбей за ўсё чалавек разумее Божую міласэрнасць, калі яго грэхападзенне пастаянна паўтараецца. Гэта добра бачна на прыкладзе залежнай асобы, калі яна ўсведамляе, што не можа даць абяцанне не грашыць: разумее, што пасля чарговай споведзі надыдзе момант, калі зноў аступіцца. А ратаваць яе будзе думка, што Госпад прабачае кожны раз. У гэтым і заключаецца самая вялікая міласэрнасць Бога.*

*Давайце шчыра: самі мы неміласэрныя. Часцей за ўсё ў адказ на крыўду нам хочацца зрабіць крыўду. Таму найбольшай міласэрнасцю я лічу рэдкую здольнасць чалавека прабачаць непрабачальнае.*

*У сувязі з Годам міласэрнасці я больш увагі надаю дзённіку с. Фаўстыны. Пастаянна асэнсоўваю яе словы пра тое, што Хрыста больш за ўсё раняць не нашыя грахі, а наш недавер Яму.*



***Сястра Зоя,***
***Шаншτацкі Інстытут Сясцёр Марыі***

# “ПАКЛІКАНЫЯ БЫЦЬ ПРЫЛАДАМІ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ”



Сустрэча стала для маладых вернікаў часам бласлаўлення і ласкі

• працяг са с. 1

Трохдзённую сустрэчу адкрыла супольная вячэрняя адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, пасля якой маладыя вернікі прынялі ўдзел у св. Імшы. “Езус сабраў вас тут, каб вы маглі ўзмацніцца ў веры і адчуць сябе адной сям’ёй. Хрыстос прагне, каб вы даверылі Яму сваю маладосць і праз гэта мелі цудоўную ідэю для сваёй будучыні, для свайго жыцця”, – заўважыў падчас гаміліі арганізатар ДДМ кс. Антоній Грэмза.

Напрыканцы першага дня маладыя людзі праслухалі канферэнцыю, прысвечаную Юбілейнаму году, і прынялі ўдзел у канцэрце праслаўлення гурта “Open”. На тэму міласэрнасці з моладдзю разважаў прэфект гродзенскай ВДС кс. Андрэй Лішко. Ён адзначыў, што галоўным адрозненнем хрысціянскай рэлігіі з’яўляецца тое, што Бог першым робіць крок насустрач чалавеку. Святар падкрэсліў, што аснова хрысціянства – гэта “Божая міласэрнасць, бесперапынны выхад Бога да чалавека”. Заклікаў ніколі не саромецца і не баяцца прыходзіць да Бога са сваімі праблемамі і турботамі. Няважна, наколькі дробязнымі ці значнымі яны могуць падавацца на першы погляд.

У першай палове другога дня была праведзена катэхеза. У гэтым годзе моладзь разважала над учынкамі міласэрнасці для душы і цела. На заканчэнне духоўных практыкаванняў кожны з удзельнікаў выбраў учынак міласэрнасці, які паабяцаў выконваць на працягу года.

Вельмі насычана прайшла другая палова дня. Адбыліся прэзентацыі парафіяльных груп, падчас якіх можна было пачуць харавы спеў, рэмейкі папулярных песень, паназіраць за запальнымі танцамі вернікаў з Нігерыі, убачыць рознага зместу сцэнкі і прыняць удзел у віктарыне. Пасля супольнай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту з канцэртам праслаўлення выступіў гурт “AVE”. Сюрпрызам для сабраных стаў выступ Веранікі Казлоўскай з Гродна, чэмпіёнкі Беларусі і Еўропы ў oriental dance. З дапамогай танца дзяўчына наблізіла прысутным гісторыю жыцця і навяртання Марыі Магдалены.

На другі дзень Дыяцэзіяльных дзён моладзі вернікаў наведаў сакратар Апостальскай нунцыятуры ў Беларусі мансеньёр Марынка Анталовіч. Прадстаўнік папы Францішка ўзначаліў св. Імшу. Падчас гаміліі мансеньёр адзначыў, што характэрнай рысай маладых людзей з’яўляецца пэўная непаслухмянасць, нават бунтарскі дух, “які можна выкарыстоўваць з вялікай карысцю”. “Часта вы, моладзь, дзейнічаеце наперакор таму, што вам гавораць. Забароны нібы падштурхоўваюць вас. Сёння Касцёлу, які часта пераследуецца, які не разумеюць або намагаюцца прыгнесці, патрэбны такія людзі, якія будуць ганарыцца сваёй верай і жыць ёю наперакор усяму”, – заўважыў ён.

Напрыканцы набажэнства кс. Антоній Грэмза падзякаваў папскаму прадстаўніку за тое, што сваё першае наведванне Гродзенскай дыяцэзіі ён пачаў менавіта з дзён моладзі. Ад імя ўсіх удзельнікаў арганізатар ДДМ падарыў мансеньёру цішотку і значок з лагатыпам 23-й сустрэчы маладых вернікаў дыяцэзіі.




Кожная з груп разважала над пэўнымі ўчынкамі міласэрнасці



Мансеньёр заахвоціў успрымаць цяжкасці як нагоду для вызнання веры

У апошні дзень сустрэчы моладзь наведаў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Падчас св. Імшы ардынарый заклікаў маладых людзей кіравацца дэвізам сёлетняй сустрэчы і весці людзей да Хрыста, нанова адкрываючы ўчынкі міласэрнасці для душы і цела. Біскуп заахвоціў моладзь мець адвагу трываць у міласці, нягледзячы на пасткі сучаснасці, і з яе дапамогай змяніць гэты свет. Цытуючы словы папы Францішка, ардынарый падкрэсліў, што міласэрнасць не з’яўляецца паблажлівасцю або спачуваннем, але праўдзівасцю пастаўы.

На завяршэнне сустрэчы прысутныя на чале з арганізатарам ДДМ кс. Антоніем Грэмзам падзякавалі ксяндзу пробашчу парафіі ў Мастах Віктару Ханько і мастаўчанам за годны прыём. Скончыліся сёлетнія Дні моладзі канцэртам праслаўлення гурта “Рыбы”.

***Ангеліна Марцішэўская***

## Даведка

Дыяцэзіяльныя дні моладзі ў Гродзенскай дыяцэзіі ўзялі свой пачатак 23 гады таму, калі біскуп Аляксандр Кашкевіч вырашыў па прыкладзе Святога Айца Яна Паўла II прысвяціць асаблівую ўвагу выхаванню маладых вернікаў. Першы з’езд адбыўся ў маі 1993 года. З таго часу каталіцкая моладзь з усёй дыяцэзіі штогод збіраецца на сумесную сустрэчу і малітву.

Месцамі правядзення з’ездаў з’яўляюцца цэнтры дэканатаў, якія звычайна супадаюць з раённымі цэнтрамі вобласці. Моладзевыя сустрэчы ўжо прайшлі ў Смаргоні, Іўі, Лідзе, Ваўкавыску, Сапоцкіне, Гродне, Воранаве, Шчучыне, Мастах. На спатканні прыбываюць каля тысячы маладых вернікаў. Кожная сустрэча звязана з канкрэтнай тэмай, якая адносіцца да жыцця Паўсюднага і лакальнага Касцёла.

На працягу апошніх гадоў арганізатарам Дыяцэзіяльных дзён моладзі з’яўляецца кс. Антоній Грэмза, каардынатар па справах моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. Арганізатарам моладзевага з’езда на месцы з’яўляецца пробашч мясцовай парафіі або дзекан. Сустрэчы звычайна праводзяцца ў маі. Падрыхтоўка да мерапрыемства трывае паўгады.

Дні моладзі аб’ядноўваюць у сабе шчырую малітву, цікавае навучанне, вясёлыя забавы і новыя знаёмствы. Штодня існуе магчымасць удзелу ў святой Імшы і маёвым набажэнстве, малітве, канферэнцыях. Адказы на пытанні можна знайсці ў свайго роду “катэхезе ў катэхезах” – форме навучання, дзе моладзь дзеліцца на групы і разважае над пэўнай праблемай. На з’ездзе можна ўбачыць тэатральныя пастаноўкі, як падрыхтаваныя, так і спантанныя, выступленні дыяцэзіяльных музычных гуртоў. З моладдзю, як правіла, сустракаецца біскуп і іншыя цікавыя госці.

**Галоўная мэта Дыяцэзіяльных дзён моладзі – духоўная інтэграцыя маладых людзей.**




niedziela
TYGODNIK KATOLICKI

### *Студня для Паўднёвага Судана*

***“Мешка I” – так будзе называцца студня, якую пабудуюць з нагоды 1050-й гадавіны хросту Польшчы ў Паўднёвым Судане, самай беднай на ваду краіне ў свеце.***

*Акцыю “Наталяем смагу Судана” праводзіць парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса і св. Фларыяна ў Познані разам з Польскай гуманітарнай арганізацыяй. У ініцыятыве прымаюць удзел амаль 5000 чалавек, сярод якіх вучні, парафіі, скаўты, пажарныя, а таксама палякі з ЗША і Вялікабрытаніі.*

*Адзін з ініцыятараў акцыі звяртае ўвагу на тое, што для нас відавочна, што з крана цячэ вада, гэта наша штодзённасць. Аднак многія жыхары Зямлі ўсё яшчэ не маюць доступу да чыстай вады. Жыхары Паўднёвага Судана павінны пераадолець у сярэднім каля 4 км, каб дабрацца да крыніцы чыстай вады. А 45% грамадства п’юць атрутую ваду.*




### *Папа заклікаў маліцца аб павазе да жанчын*

***“Каб ва ўсіх краінах свету жанчыны шанаваліся і паважаліся, і каб іх неад’емны сацыяльны ўклад быў высока ацэнены” – так гучыць першая малітоўная інтэнцыя Святога Айца на бягучы месяц.***

*Ён абвясціў яе асабіста ў адмысловым відэароліку, нагадваючы аб незаменным укладзе жанчын ва ўсе сферы чалавечай дзейнасці, пачынаючы з сям’і.*

*“У свеце яшчэ вельмі мала зроблена для жанчын, якія знаходзяцца ў складаных сітуацыях, якімі пагарджаюць, якіх адчужаюць і нават змушаюць да нявольніцтва. Мы павінны асудзіць сексуальнае насілле ў адносінах да жанчын і ліквідаваць бар’еры, якія перашкаджаюць іх поўнай інтэграцыі ў сацыяльнае, палітычнае і эканамічнае жыццё”, – заклікаў Пантыфік.*




### *Армія Святога Айца адзначыла сваё свята*

***Урачыстасць адбылася ў гадавіну гераічнай смерці 147 салдат Швейцарскай Гвардыі, якія 6 мая 1527 г. загінулі, абараняючы папу Клямента VII.***

*Трохдзённае святкаванне распачалося ўрачыстым канцэртам гвардзейскага аркестра. Затым ватыканскія салдаты прынялі ўдзел у святой Імшы, якую для іх адправіў у базіліцы св. Пятра дзяржсакратар кардынал Петра Паралін. Аднак найважнейшым пунктам святкавання была прысяга новых рэкрутаў (сёлета іх 23), складзеная ў Апостальскім палацы на дзядзінцы св. Дамасія. Пасля новых гвардзейцаў разам з іх сем’ямі прыняў на спецыяльнай аўдыенцыі папа Францішак.*

***Кінга Красіцкая***

## Сакрамант канфірмацыі адбыўся ў Навагрудку

***Падчас урачыстай святой Імшы ў парафіі св. Міхала Арханёла кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў адноўлены арган і ўдзяліў сакрамант канфірмацыі 56-ці парафіянам.***

Іерарх адзначыў, што напоўніца Святым Духам – гэта значыць глыбей укараніцца ў веры. “Праз прынящце дароў Духа чалавек прагне, каб вера была яшчэ мацнейшай”, – падкрэсліў гродзенскі ардынарый.



У гаміліі кс. Юрый Марціновіч звярнуў увагу на пасланне сакраманту канфірмацыі, які абавязвае чалавека быць сапраўдным вучнем Хрыста. Святар адзначыў, што праз гэты сакрамант кандыдаты абавязуюцца захоўваць мір і добрыя адносіны з бліжнімі.

На заканчэнне Імшы вернікі, якія былі ўзбагачаны дарамі Духа Святога ў канфірмацыі, падзякавалі свайму пробашчу кс. Юрыю Жэгарыну, с. Хэлене і сваім бацькам, якія рыхтавалі іх да гэтай урачыстасці і перадалі найкаштоўнейшы скарб, які з'яўляецца вера.

## Семінарысты наведалі дзяцей у Галавічполлі і Мураванскім доме-інтэрнаце

***У чарговы раз навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне сустрэліся з дзецьмі-інвалідамі ў вёсцы Галавічполле і ўпершыню наведалі Мураванскі дом-інтэрнат.***



Там паміж мясцовай камандай і семінарыстамі адбыўся футбольны матч. Супольна праведзены час не толькі натхніў і духоўна падмацаваў прысутных, але і яшчэ раз дазволіў семінарыстам адчуць асалоду ад магчымасці дзяліцца досведам асабістай сустрэчы з бясконцай Божай любоўю ў штодзённасці.

Наведваючы дзіцячыя дамы-інтэрнаты ў розных кутках дыяцэзіі, алюмны вучацца сведчыць аб сваёй веры не толькі словамі, але і, у першую чаргу, праз прыклад свайго жыцця.

## Духавенства павіншавала б-па Аляксандра Кашкевіча з днём нябеснага апекуна

***2 мая святары і кансэкраваныя асобы, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, сабраліся на пастарскай сустрэчы, якая завяршылася святой Імшой у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.***



Ад імя духавенства дыяцэзіі віншаванні біскупу выказаў кс. Цэзарый Міх, афіцыял біскупскага суда ў Гродне. Святар падзякаваў іерарху за 25 гадоў кіравання дыяцэзіяй і пажадаў шчодрых Божых ласкаў на далейшыя гады.

Ардынарый падзякаваў усім за віншаванні, а найперш за малітву, просячы духавенства, манахінь і ўсіх вернікаў надалей падтрымліваць яго пастарскае служэнне руплівай малітвай.

## Адбылася сёмая пілігрымка маці з Ашмян у Баруны

***У ёй прынялі ўдзел больш за 280 жанчын з Ашмянскага дэканата і ваколіц.***



У гэтым годзе да пілігрымкі далучыўся дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У прамове да жанчын біскуп засяродзіў увагу на міласэрнасці, на тым, каб заўсёды бачыць у чалавеку Божае тварэнне, а таксама прывёў павучальныя прыклады з жыцця, якія ў цяперашні час сустракаюцца ў грамадстве.

Пры ўваходзе ў Баруны пілігрымаў чакалі вернікі са сваім пробашчам. Біскуп Юзаф асвяціў прыдарожны крыж, і пілігрымы рушылі да святыні.

Кульмінацыяй дня стала святая Імша, у якой прынялі ўдзел святары і вялікая колькасць вернікаў. Пасля біскуп даверыў усіх жанчын апецы Маці Божай Барунскай.

## У дзясяты раз у Гродзенскай дыяцэзіі прайшоў Дзень маці

***Галоўныя ўрачыстасці адбыліся ў першую нядзелю мая ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы.***



У пешай пілігрымцы ў санктуарый прыбылі маці з Гродна разам са сваімі дзецьмі і мужамі, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.

“Марыя, наша найлепшая Маці, зноў збірае нас тут. Яна прысутнічае сярод нас, каб усіх уважліва выслухаць. Пакажыце Ёй сваю веру, пакажыце сваё сэрца, адкрытае на Пана Бога і іншага чалавека”, – гэтымі словамі, вітаючы пілігрымаў, заахвочваў да малітвы кс. Міхал Ластоўскі, пробашч капцёўскай парафіі.

Канферэнцыю на тэму “Дамо свету міласэрнасць праз нашыя ўчынкі, словы і малітву” прамовіў для прысутных кс. Юрый Марціновіч. Святар зазначыў, што ў гэты дзень усе пілігрымы прыходзяць у “школу Езуса, якая з'яўляецца школай міласэрнасці”, не толькі для таго, каб прасіць аб Божай міласэрнасці, але таксама каб вучыцца даваць міласэрнасць іншым, наследуючы дабрыню Бога. Святар прадставіў тры спосабы здзяйснення міласэрнасці ў адносінах да бліжняга: праз учынкі, слова, малітву.

Пасля канферэнцыі прысутныя маці прынялі ўдзел у Крыжовым шляху. Затым адбылася ўрачыстая Імша ў інтэнцыі ўсіх жывых і памерлых матуль дыяцэзіі пад кіраўніцтвам кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.

“Гэта менавіта ад вас, дарагія маці, у большай ступені залежыць будучыня вашых сем'яў. Вы з'яўляецеся апосталамі ў сваіх дамах. Будуйце свае сем'і на Богу, даючы Яго сваім дзецям”, – звярнуўся да маці біскуп.

Іерарх падзякаваў усім мамам за працу выхавання сваіх дзяцей і пажадаў, каб Божае блаславенне было госцем у кожным чалавечым сэрцы, бо “без маці і жанчын свет быў бы ўбогі і бедны”.

## Сустрэча супрацоўнікаў службы аховы здароўя адбылася ў Гродне

***У ёй прынялі ўдзел працаўнікі бальніц, паліклінік, дамоў сацыяльнай апекі, студэнты, медыкі-пенсіянеры, а таксама святары з розных мясцін дыяцэзіі. Сустрэча, арганізаваная Душпастырствам службы аховы здароўя Гродзенскай дыяцэзіі на чале з кс. Віталіем Сідоркам, была прымеркавана да Юбілейнага года міласэрнасці. Яе дэвізам сталі словы евангеліста Лукі: “Будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш міласэрны”.***



Удзельнікаў сустрэчы прывітаў кс. Віталій Сідорка, які ва ўступным слове нагадаў, што прафесія медыкаў патрабуе, каб яны былі захавальнікамі і слугамі чалавечага жыцця. Аб тэарэтычных і практычных аспектах міласэрнасці распавёў а. Аляксандр Махнач SP, вікарый парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе.

Падчас канферэнцый удзельнікі сустрэчы пазнаёміліся таксама з эмацыйным аспектам у медыцынскай практыцы, асаблівасцямі сістэмы аказання паліятыўнай дапамогі цяжка хворым дзецям і спосабамі дапамогі залежным людзям.

У межах сустрэчы медыкі прынялі ўдзел у святой Імшы, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Акрамя гэтага для іх была арганізавана экскурсія па катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя, якую правёў пробашч парафіі кс. Ян Кучынскі.

## АНОНСЫ

# ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ

***Урачыстасць адбудзецца 5 чэрвеня ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы.***

**Праграма**

**7.00** – св. Імша ў францішканскім касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне;
**8.00** – выхад пілігрымкі з францішканскага касцёла;
**12.00** – пілігрымка прыходзіць у Капцёўку;
**12.00–13.00** – гарбата, адпачынак;
**13.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці;
**13.15** – канферэнцыя для бацькаў, мужчын;
**14.00** – Крыжовы шлях вакол касцёла;
**15.00** – св. Імша за бацькаў (жывых і памерлых);
**16.30** – ад'езд аўтобусам у Гродна.



*Усіх сардэчна запрашае кусташ санктуарыя ў Капцёўцы кс. Міхал Ластоўскі.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

## *Як часта Вы моліцеся Ларэтанскай літаніяй?*




*Перажываючы месяц май, мы спыталіся ў нашых чытачоў, як часта яны моляцца Літаніяй да Маці Божай. Большасць рэспандэнтаў прызнала, што адгаворвае літанію толькі ў маі. Таксама вялікую колькасць галасоў набраў адказ “кожны дзень”.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Культ Маці Божай вельмі моцна ўкаранёны ў нашай духоўнай культуры. Тое, што ў сваіх дамах мы маем шмат Яе абразоў і фігурак, адгаворваем Ружанец і іншыя малітвы да Маці Божай, сведчыць аб глыбокай любові і пашане нашага народу да Найсвяцейшай Панны Марыі. Асобнае месца ў Яе ўшанаванні займаюць т. зв. маёўкі. Падчас маёвых набажэнстваў у святынях можна заўважыць больш людзей, чым у іншыя месяцы. Хацелася б толькі, каб там было і маладое пакаленне, дзеці. Апека Багародзіцы вельмі нам патрэбна, а падчас супольнага адгаворвання літаніі мы можам атрымаць мноства ласкаў.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**18 мая 1987 г.** – кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы;*
**26 мая 1951 г.** – кс. Ян Рудзінскі, *проб. Адэльск.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




# Шчырая споведзь

А. д-р Андрэй Шчупал CSsR

Частка II

Безумоўна, нялёгка вызнаваць вельмі інтымныя грахі, спалучаныя з вялікім сорамам. Падобную сітуацыю мы перажываем тады, калі ідзём да ўрача, каб выратаваць хаця б, можа, некалькі гадоў жыцця. Аднак у выпадку споведзі мы атрымліваем не некалькі гадоў, а вечнае жыццё. Калі шчыра не вызнаем сваіх грахоў, то на Апошнім Судзе ўсе пра іх даведаюцца. Калі ж у сакраманце пакаяння Езус абмые нас сваёй Крывёю, ніхто ўжо не будзе ведаць гэтых грахоў.

Вызнаванне грахоў трэба пачаць з уступнай інфармацыі: падання часу апошняй споведзі, адпраўлення ці неадпраўлення зададзенай пакуты, а таксама акрэслення свайго стану (халасты, незамужняя, бацька, маці, удавец, удава). Можна агульна ахарактарызаваць род сваёй працы. Затым належыць паказаць стан сваёй душы, а менавіта род, колькасць і акалічнасці здзейсненых грахоў, указаць на залежнасць ад чагосьці. У выпадку цяжкасцей у вырашэнні маральных праблем можна папрасіць святара іх растлумачыць. Пасля вызнання грахоў пэнітэнт павінен упэўніць у жалі за свае грахі і выразіць моцнае пастанаўленне выправіцца, а таксама папрасіць спаведніка даць адпаведнае павучанне і адпусціць грахі.

Вельмі цяжкая і складаная сітуацыя наступае ў выпадку ўтойвання ці свядомага і наўмыснага невызнання пэнітэнтам якога-небудзь цяжкага граху. У такім выпадку споведзь становіцца несапраўднай і святатацкай. Давайце праналізуем канкрэтны выпадак. Напрыклад, маладыя на перадшлюбнай споведзі не прызналіся ў граху супраць чыстасці. Пасля шлюбу яны ўжо на працягу некалькіх гадоў прыступаюць да сакраманту пакаяння, але ніколі яшчэ не спавядаліся з гэтага ўтоенага перад шлюбам граху. Такім чынам, не толькі іх перадшлюбная споведзь была святатацкай – усе наступныя споведзі таксама былі святатацкія і несапраўдныя, паколькі ласкі Божай міласэрнасці былі затрыманы падчас той перадшлюбнай споведзі. Наступствам такога стану з'яўляецца таксама прыняцце святой Камуніі і іншых сакрамантаў па-святатацку. Каб змяніць такі стан, неабходна генеральная споведзь – паўтор усіх споведзей пасля той, якая была несапраўднай. Трэба папрасіць святара аб такой споведзі і прадставіць стан сваёй душы нават з некалькіх ці некалькіх дзясяткаў гадоў. Генеральная споведзь абавязковая, калі грахі ўтойваліся. Разам з тым, яна вельмі карысная і рэкамендуецца падчас пераломных момантаў жыцця, перад выбарам новага стану, падчас місій і рэкалекцый, у небяспечнай хваробе як падрыхтоўка да смерці, перад сур'ёзнай аперацыяй, а таксама ў выпадку сумненняў адносна сапраўднасці якой-небудзь з ранейшых споведзей.

***Дарагі Сябар!*** *Я буду горача маліцца за Цябе, каб Ты адважыўся падысці да канфесіянала і пачуў словы Хрыста: "Я адпускаю Табе грахі, ідзі і ўжо больш не грашы", і каб з гэтай хвіліны Ты стаў самым шчаслівым чалавекам.*

# VIII Парафіяда дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі

ПАРАФІЯДА дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі

Святыня · Тэатр · Стадыён

**Дэвіз сёлетняй сустрэчы – "Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны" (Лк 6, 36).**

**Парафіяда будзе праходзіць з 20 па 23 чэрвеня 2016 года ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы), парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля (Гродна-Дзевятоўка) і на стадыёне ЦСК "Нёман".**

Парафіяда – праект, заснаваны на старажытнагрэчаскай трыядзе "Святыня – Тэатр – Стадыён". Арганізатары забяспечваюць удзельнікам выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму. Элемент "Святыня" уключае біблійны конкурс, конкурс рэлігійнай песні „Sacro Song". Элемент "Тэатр" – конкурс малюнка, конкурс "Музыка – маё жыццё", конкурс ведаў па гісторыі і жыцці Касцёла, конкурс малых тэатральных форм. Элемент "Стадыён" – бег 60 м, бег 100 м, бег 800 м, бег 1000 м, бег 1500 м, скачкі ў даўжыню з разбегу, кіданне мяча, бадмінтон, настольны тэніс, шашкі, валейбол, футбол, плаванне.

**Запрашаюцца дзеці і моладзь з усёй Беларусі.**
**Узрост удзельнікаў – 11–19 гадоў.**
**Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун** (можа быць і меншая група).

**Кошт удзелу 50 000 руб.** (ёсць магчымасць вызвалення ад аплаты).
**Харчаванне і пражыванне забяспечваюць арганізатары.**

## Праграма Парафіяды 2016

*20 чэрвеня*

**11.00 – 14.00** – прыезд груп і рэгістрацыя *(парафія Гродна-Паўднёвы)*;
**14.30** – падрыхтоўка да св. Імшы *(прыгатаванне літургіі спеваў, магчымасць скарыстання з сакраманту паяднання)*;
**15.00** – св. Імша *(галоўны цэлебрант – кс. бп Аляксандр Кашкевіч)*, Чэрвеньскае набажэнства, урачыстае адкрыццё Парафіяды;
**16.30** – абед-вячэра;
**17.00** – засяленне ўдзельнікаў *(парафіі Гродна-Паўднёвы і Гродна-Вішнявец)*;
**17.00** – сустрэча апекуноў груп *(прысутнасць абавязковая)*;
**18.00** – конкурс малюнка;
**18.00** – шашкі;
**18.00 – 21.00** – тэатральны конкурс;
**21.30** – вячэрнія малітвы;
**22.00** – адпачынак.

*21 чэрвеня*

**7.00 – 7.30** – сняданак;
**7.45** – ранішнія малітвы;
**8.00** – выезд аўтобусамі ў парафію Гродна-Дзевятоўка;
**9.00** – св. Імша *(галоўны цэлебрант – кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB)*;
**10.30 – 11.15** – конкурс ведаў з жыцця і гісторыі Касцёла;
**11.00** – конкурс "Музыка – маё жыццё";
**13.00 – 14.00** – абед;
**14.00 – 14.45** – біблійны конкурс;
**14.30** – конкурс "Sacro Song";
**15.00** – выезд на плаванне;
**16.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў касцёле;
**16.30** – Вяночак да Божай міласэрнасці;
**17.45** – бласлаўленне на заканчэнне адарацыі;
**16.00 –17.00** – спаборніцтвы (плаванне);
**17.15** – вяртанне на Дзевятоўку;
**18.00 –19.00** – вячэра;
**19.00** – сюрпрыз, узнагароджванне пераможцаў некаторых конкурсаў;
**21.15** – вячэрнія малітвы;
**21.45** – выезд на начлег.

*22 чэрвеня*

**7.00 – 7.30** – сняданак;
**7.30** – выезд аўтобусамі ў парафію Гродна-Вішнявец;
**7.45** – ранішнія малітвы;
**8.00** – св. Імша *(галоўны цэлебрант – кс. бп Юзаф Станеўскі)*;
**9.00** – выезд на гарадскі цэнтральны стадыён;
**9.40** – урачыстае распачацце спартыўных спаборніцтваў;
**10.00 –14.00** – спартыўныя спаборніцтвы на стадыёне;
**14.00 –15.00** – абед;
**15.00 –18.30** – спартыўныя спаборніцтвы на стадыёне;
**18.30** – узнагароджванне пераможцаў некаторых конкурсаў першых двух дзён;
**19.45** – вячэра;
**20.45** – выезд у парафію Гродна-Катэдра;
**21.00** – вячэрнія малітвы;
**21.45** – выезд на начлег у парафіі Гродна-Паўднёвы і Гродна- Вішнявец.

*23 чэрвеня*

**7.30–8.30** – сняданак;
**8.45** – ранішнія малітвы;
**9.00** – св. Імша *(галоўны цэлебрант – кс. бп Аляксандр Кашкевіч)*;
**10.30** – уручэнне ўзнагарод;
**11.30** – супольны пачастунак і заканчэнне Парафіяды.

**Заяўку на парафіяду неабходна даслаць да 1 чэрвеня 2016 года на адрас: grodno.parafiada@mail.ru.**
Кожны ўдзельнік павінен мець пры сабе аформленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з фотаздымкам, не старэйшым за адзін год.
**Кантактныя тэлефоны: (8-033) 624-35-22, (8-029) 319-54-65 – кс. Артур Малафей.**






**А. Аляксандр Махнач SP**

## *Чаму святары не жэняцца?*

*У Рыма-каталіцкім Касцёле святары не жэняцца, жывучы ў цэлібаце. Манахі складаюць абяцанне чыстасці. Вучэнне пра цэлібат у Касцёле не з'яўляецца дагматам веры, а дысцыплінарным правілам, якое сягае сваімі каранямі да вытокаў хрысціянства.*

*Пра цэлібат успамінаецца ў Евангеллі. Напрыклад, у евангельскіх тэкстах паводле св. Марка (10, 29), св. Мацвея (19, 12) "ёсць скапцы, якія самі зрабілі сябе скапцамі дзеля Валадарства Нябеснага". У Евангеллі паводле св. Лукі (18, 28–30) Езус гаворыць: "Сапраўды кажу вам, што няма таго, хто б пакінуў дом, ці жонку, ці братоў, ці бацькоў, ці дзяцей дзеля Божага Валадарства і не атрымаў бы значна больш у гэты час, а ў будучым веку – жыццё вечнае".*

*Паводле каталіцкага вучэння, тыя, хто ідзе за святарскім ці манаскім пакліканнем, атрымліваюць ласку "непадзеленага сэрца", што дазваляе больш свабодна служыць Богу і людзям. Цэлібат грунтуецца на веры і любові ў Бога і да Бога. Сам Езус Хрыстус, які з'яўляецца ўцелаўлёнай Любоўю, жыў у цэлібаце.*

*Праз выключную любоў святар яднаецца з Касцёлам і праз цэлібат цалкам прысвячае сябе бескарыслівай службе Хрысту і Яго Касцёлу. Святары не жэняцца, і гэта з'яўляецца прароцкім знакам у свеце аб новым стварэнні, аб жыцці, якое будзе пасля ўваскрашэння. Езус казаў: "Бо пры ўваскрашэнні не жэняцца, не выходзяць замуж, але жывуць, як анёлы Божыя на нябёсах".*

*Як і ў кожнай справе, ёсць свае "за" і "супраць". Цэлібат, хутчэй, дапамагае святарам у душпастарскай дзейнасці. Калі святар сапраўды стараецца несці Евангелле людзям, то бясшлюбнасць – гэта добры "інструмент" для службы Богу і Касцёлу.*

**паводле catholicnews.by**

# Мокрая хустка

***Прывітанне, Маленькі Сябар! Вядома, кожнаму з нас знаёма пачуццё віны. Яго мы адчуваем, калі не слухаемся бацькоў або пасварымся з сябрам. У выніку шкадуем за здзейснены дрэнны ўчынак і просім за гэта прабачэння.***

***Раскаянне – непрыемнае пачуццё. Але калі душа здольная яго перажываць, значыцца, чалавек усведамляе, што робіць нешта дрэннае, і імкнецца ў будучым больш не рабіць зла.***

***Сёння прапануем Табе паразважаць аб каштоўнасці раскаяння.***



*У старажытныя часы жыў адзін страшны разбойнік, які наводзіў на людзей жах. Не раз імператар пасылаў на яго атрады салдатаў, але ўсе спробы схапіць разбойніка заканчваліся няўдачай. Тады правіцель паабяцаў злачынцу поўнае прабачэнне, калі той спыніць рабаванні.*

*Бандыт быў кранутым велікадушнасцю імператара і пайшоў да яго, каб раскаяцца ва ўсіх сваіх злачынствах. Імператар дараваў яму. А пасля разбойнік цяжка захварэў.*

*Днём і ноччу перад яго вачыма праходзіла чарада пакрыўджаных ім людзей. Пакуты сумлення не давалі заснуць чалавеку. І тады ён з плачам узмаліўся:*

*– Божа, даруй і памілуй мяне, як Ты дараваў разбойніку, укрыжаванаму побач з Табою.*

*Хустка яго не паспявала высыхаць ад праліты у малітве слёз.*

*Аднойчы ноччу мужчына адчуў, што прыйшла яго апошняя гадзіна. Ён убачыў злых духаў, якія трымалі ў руках спіс яго злачынстваў. Светлыя анёлы сталі наводдаль і не маглі прыгадаць ніводнай добрай справы ў яго жыцці.*

*Калі злыя духі паклалі на адну чашу вагаў лісты, спісаныя злачынствамі, чаша нізка апусцілася.*

*– Няўжо няма нічога, што можна было б пакласці на другую чашу? – ціха спытаў адзін з анёлаў.*

*Раптам з раскрытай рукі паміраючага выпала мокрая ад слёз хустка.*

*– Пакладзём яе, – сказаў анёл.*

*І хустка схіліла вагі на свой бок, знішчыўшы запісы злых духаў. А душа разбойніка адляцела да Бога, які прабачыў яму ўсё за слёзы раскаяння.*

*Чаму людзі баяліся разбойніка?*
*Якім чынам бандыт атрымаў прабачэнне ў імператара?*
*Ці раскайваўся разбойнік ва ўчыненых злачынствах?*
*Каго ён убачыў перад смерцю?*
*Чаму мокрая хустка схіліла вагі на свой бок?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці і зычлівасці ад людзей навокал. Шчасці Божа!
*Парафіяне са Студзенікаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні здароўя, поспехаў і нястомнасці ў душпастарскай паслузе, Божага благаслаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая Шкаплерная ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі і любові. Дзякуем за захаванне часцінкі гісторыі нашай краіны ў музеі, які Вы стварылі сваімі рукамі, за дабрыню і адкрытае сэрца.
*З малітвай апостальства “Маргарытка”*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем свае сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, любові, мужнасці, радасці і задавальнення ад святарскай паслугі, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух атуляе Вас сваім святлом, а Маці Божая Шкаплерная нястомна апекуецца.
*З малітвай апостальства “Маргарытка”*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Урбановічу**
з нагоды Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў шчыра жадаем моцнага здароўя, усмешкі на кожны дзень і чулых людзей побач. Няхай Пан Бог блаславіць ў штодзённай працы, адорвае сваімі ласкамі і разлівае на Вас сваю міласэрнасць. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і добрае сэрца.
*Вернікі з пар. св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважанай Сястры Зоф’і Смятанцы**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Дзякуем Вам за шчырую малітву і адданую працу ў нашай парафіі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці, а святая Заступніца нястомна ахоўвае і дапамагае крочыць за Хрыстом.
*Вернікі з капл. Хрыста Валадара і МБ Фацімскай, Жамыслаўль*

**Паважанай Сястры Зоф’і Смятанцы**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а ўсмешка ніколі не знікае з Вашага твару.
*Суполка “Equipes Notre-Dame” з Суботнікаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**
з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем самыя гарачыя пажаданні здароўя, стойкасці, зычлівых людзей побач, штодзённай усмешкі і шчодрых ласкаў ад Міласэрнага Бога. Дзякуем Пану за Вас, а Вашым бацькам – за сына святара. Шчасці Божа!
*Вернікі з капліцы Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру**
з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў, душэўнага супакою, толькі радасных хвілін у душпастарскай паслузе, а таксама сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай святы Заступнік і Божая Маці заўсёды чуваюць над Вамі. Шчыра дзякуем за мудрыя і павучальныя казанні, прыклад моцнай веры, адкрытае сэрца і адданую паслугу Богу. Дзякуем маме за сына святара. Шчасці Божа!
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастарскай працы. Няхай на твары заўсёды яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б’ецца ад той любові, якая ў ім жыве. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.
*Кола “Маргарытка” з в. Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Дня нараджэння складаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, радасці, шмат Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а Ваша вера будзе прыкладам для пераймання.
*Вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**
з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў шчыра жадаем здароўя, стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Маці Божай, людской зычлівасці і павагі ад парафіян. Няхай Твой жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а праца прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён. Няхай міласэрны Бог адорвае Цябе ўсімі сваімі ласкамі. Шчасці Божа!
*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень і поспехаў у святарскай паслузе, нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля і Божай міласэрнасці, добрага плёну ў працы з дзецьмі і моладдзю. Няхай добры Бог, якому Вы даверыліся, нястомна Вас блаславіць, а Найсвяцейшая Панна Марыя – Маці святароў – ахінае Вас мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды і ўсюды годна выконваць Божую волю. Дзякуем за Вашу святарскую паслугу, добрае сэрца, адкрытае на людскія патрэбы як у хвіліны гора, так і ў радасці. Няхай Ваша вера будзе моцнай і поўнай Божай любові.
*З малітвай і павагай парафіяне з Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, бласлаўлення і сталай апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа, а таксама шмат хвілін радасці на цяжкім, але найпрыгажэйшым з усіх шляхоў, які Бог выбраў для Вас. Дзякуем Вам за дабрыню, адкрытае сэрца, шчырую ўсмешку і падтрымку ў цяжкія моманты. Аддзяч Вам, Божа!
*Моладзь з пар. Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Сядлецкаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці і душэўнага супакою. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе бласлаўлёны, усемагутны Бог ахінае сваёй міласэрнасцю, Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца, а святы Засступнік апекуецца на працягу ўсяго жыцця. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах.
*Парафіяне з в. Навіянка і Пашэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Марцінцу**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, поспехаў у душпастарскай пацы, сіл і стойкасці на кожны дзень, а таксама нястомнай радасці. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі.
*Вернікі з пар. Азёры*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, задавальнення ад працы, стойкасці ў душпастарскай паслузе, дароў Хрыста, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, радасці і надзеі. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, шчодра адорвае сваімі ласкамі.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

Ад усяго сэрца прагнем падзякаваць за малітвы (на працягу ўсёй хваробы) і дапамогу ў пахаванні дачкі, жонкі, матулі – Дануты Коўш. Дзякуем ксяндзам роскай і шылавіцкай парафій, сястры Элігіі, парафіянам, а таксама кожнаму, хто ўдзельнічаў у пахаванні. Асаблівыя словы ўдзячнасці за дапамогу ў арганізацыі пахавання выказваем ксяндзу пробашчу Мар’яну Хаменю і ксяндзу Андрэю Радзевічу. Няхай Бог блаславіць Ваш святарскі шлях, Маці Божая штодзённа апекуецца, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у нястомнай працы, а таксама цярплівасці і моцы, каб весці людзей да Бога.
*З малітвай і ўдзячнасцю сем’і Коўш і Клімчук*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Севасцьяновічу і яго сям’і**
перасылаем шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю дарагога чалавека – бацькі і мужа. Няхай у гэтую цяжкую хвіліну Пан Бог пачуе нашыя малітвы, а міласэрны Езус разам з Маці Божай суцешаць і падтрымаюць Вас. Вечны супакой для памерлага!
*Парафіяне з касц. св. Мікалая ў г.п. Мір*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2455; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная